



# Рэгіянальная газета. Rh.by

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2017

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета».

14 чэрвеня 2019 года №24 (1259)

18+




# Бацькі правялі дзве ночы на ганку, каб дзіця трапіла ў гімназію




старонка 2

Фота зробленае на світанку 12 чэрвеня, у 4:30 раніцы на ганку маладзечанскай гімназіі №7 у Маладзечне. Бацькі чакаюць апошнія гадзіны, каб падаць дакументы для залічэння дзіцяці ў першы клас менавіта ў гэтую ўстанову адукацыі.
Фота Зоі ХРУЦКАЙ.

## Людзі з інваліднасцю лічаць, што атрымалі мала «гуманітаркі»

старонка 3

## Якія змены чакаюць сінагогу ў Ашмянах

старонка 21

## Паспабор-нічалі віртуозы руля

старонка 22

ISSN 1991–7155




Адсканіруйце QR-код, каб перайсці на наш сайт http://rh.by/




Бацькі будучых першакласнікаў на ганку гімназіі №6 у Маладзечне. Каля 9 раніцы 11 чэрвеня.

# Бацькі правялі дзве ночы на ганку, каб дзіця трапіла ў гімназію

МАЛАДЗЕЧНА
ВІЛЕЙКА

**Але ці атрымаецца апынуцца ў жаданай установе адукацыі, даведаюцца ў канцы лета.**

Раскладныя табурэты, тэрмасы, пледы і кніга ўліку – менавіта так бавяць ночку час у чарзе бацькі, каб дзіця трапіла ў гімназію.

### Чаму бацькі стаяць у чарзе

12 чэрвеня – першы дзень прыёму дакументаў ад бацькоў будучых першакласнікаў. Другі год запар прыёмная кампанія выклікае асаблівыя хваляванні ў часткі бацькоў. Справа ў тым, што ад мінулага года адмянілі ўступныя экзамены ў пятыя класы гімназій. Новы падыход па задуме міністра Ігара Карпенкі павінен зменшыць канцэнтрацыю адораных вучняў у гімназіях, а размеркаваць іх па школах рознага тыпу.

Меркавалася, што раз праграма ў гімназіях будзе адрознівацца толькі пасля дзявятага класа, то першакласнікам няма розніцы, у якую школу паступаць. І ў большасці абяруць тую, што бліжэй.

Самі ж гімназіі мусяць прымаць усіх ахвотных, хто трапляе ў тэрыторыю ахопу школы па прапісцы. Звычайна застаюцца месцы, незанятыя першакласнікамі з патрэбнай прапіскай. На гэтыя месцы прэтэндуюць жыхары іншых мікрараёнаў. Каб патрапіць у жаданую ўстанову, бацькі стаяць у чэргах. На вакантныя месцы ў гімназіі будуць трапляць у адпаведнасці са сваім нумарам у чарзе. Калі ў канкрэтнай установе, напрыклад, будзе толькі адно свабоднае месца не па прапісцы, на яго пойдзе дзіця, чые бацькі першыя сталі ў чаргу.

### Як начавалі бацькі

На ганку маладзечанскай гімназіі №6 пачалі збірацца ад 17 гадзін 10 чэрвеня. Бацькі размясціліся на лавах. Адзначаюць, што адміністрацыя ставілася да іх чаргі з разуменнем. Далі нумар вахцёра, каб званіць, калі патрэбна ў прыбіральню.

– Мы трапляем па прапісцы ў 11 школу, але там французская мова. Я лічу, што французская нераспаўсюджаная. Выкладалі б там англійскую – ніякіх пытанняў.

У іншай мамы свая прычына, чаму абірае менавіта 6 гімназію:

– У мяне тут вучыцца старэйшае дзіця. Ну як іх разрываць, канешне, працей, калі адна школа.

– Гімназію №7 больш выбіраюць за хімію і біялогію. Хаця і тут у старэйшых класах таксама розныя профілі – і фізмат, і хімбіа, і філалагічны.

Многія адзначаюць, што галоўная перавага – высокі ўзровень самой адукацыі менавіта гэтай установы:

> **– Сёлета старэйшы сын скончыў гімназію з залатым медалём. Я ведаю, як тут выкладаюць. Паверце, зарабіць выдатна – цяжкая праца. І наступнае дзіця я хачу вучыць толькі тут.**

Бацькі расказваюць, што некаторыя шукалі прапіску або нават куплялі, каб дакладна трапіць у гімназіі. А ёсць сем'і, якія не мелі магчымасці стаяць у чарзе і адмовіліся ад задумы.

На ганку гімназіі №7 пачалі збірацца ад 3 гадзін ночы 11 чэрвеня. Ноччу 12 чэрвеня мы прыйшлі распытаць, як сядзіцца ў чарзе, у якой было 16 чалавек. Сярод бацькоў нехта спіць, іншыя сядзяць у тэлефоне, хто размаўляе, а некаторыя дрэмяць. Ёсць і таты, і мамы, і нават бабуля:

– У нас усе ў чарзе перасядзелі – і сваты, і цёткі, і самі тата з мамай, і мяне вось адправілі. Ніхто працу не прапускаў. Падрамлю, памалюся. Жывём па Машэрава, і зручней хадзіць у школу менавіта сюды.

Бацькоў асабліва хвалюе тое, што сёлета ў гімназіі могуць адкрыць не тры першыя класы, а толькі два. А значыць, яшчэ менш ахвотных вучыцца менавіта тут, трапяць за парты.

### Сёлета ўсё больш спакойна

Дырэктар гімназіі №6 **Ала Ярашэвіч** падкрэсліла, што навучальная ўстанова стварыла ўмовы і магчымасці для як мага больш камфортнага чакання для бацькоў. Напрыклад, на ганку стаялі лавы. Установа працавала ў адпаведнасці з прапускным рэжымам.

Дырэктар адзначыла, што сёлета чаканне ў чарзе прайшло нашмат больш спакойна, чым у мінулым годзе. Усё спакойна запісваліся, трымаліся сваёй чаргі, а раніцай 12 чэрвеня трымаючыся спіса падавалі дакументы. Педагог з боку гімназіі працавала ў якасці назіральніка, каб чарга была пад кантролем.

Асноўная частка бацькоў у чэргах – тыя, у каго старэйшае дзіця ўжо вучыцца ў гімназіі №6. Сям'і нашмат больш зручна, калі ўсе дзеці ў адной установе. Аднак ніякіх прыярытэтаў для будучых першакласнікаў, чый брат або сястра ўжо вучацца ў гімназіі, няма.

Ала Ярашэвіч патлумачыла, што ўсяго гімназія №6 прыме 90 першакласнікаў. І ўжо ў поўдзень першага дня падачы заяў гімназія атрымала 60 кандыдатаў. Сярод іх 36 чалавек – тыя, чые бацькі стаялі ў чарзе, таму што не маюць прапіску па раёне ахопу ўстановы. Сярод ахвотных паступіць менавіта сюды і з прапіскай пад гімназію №6 на гэты ж час падалі заявы 24 чалавекі.

Гімназія будзе штодзённа адсочваць ліст уліку інфармацыі аб колькасці прынятых заяў ад тых, хто мае прапіску, і хто не мае. Паседжанне па пытанні залічэння ў першы клас адбудзецца ў 20 гадзін 28 жніўня. Раніцай 29 жніўня бацькі ўбачаць спісы, хто ж стаў тымі 90 першакласнікамі маладзечанскай гімназіі №6.

### У Вілейцы таксама чарга

Летась толькі ў Маладзечне з усіх раёнаў Павілля бацькі будучых першакласнікаў начавалі на ганку. У гэтым годзе чэргі па месцы ў першыя класы гімназій напаткалі і Вілейку.

Як распавялі ў аддзеле адукацыі Вілейскага райвыканкама, у 5:10 раніцы 12 чэрвеня пачала збірацца чарга на ганку гімназіі «Логас». На 7:40 раніцы ў чаргу запісалася 32 чалавекі.

Агулам у нашым рэгіёне 12 гімназій.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**
**Фота аўтара.**

## Медалісты ў Маладзечне

Усе кандыдаты ў медалісты па Маладзечаншчыне пацвердзілі сваё званне. Як распавяла галоўны спецыяліст аддзела дашкольнай, агульнага сярэдняй і сярэдняй спецыяльнай адукацыі Упраўлення па адукацыі Маладзечанскага райвыканкама **Аксана Агірчук**, сёлета сярод маладзечанскіх выпускнікоў 97 атрымалі залатыя медалі, а шасцёра – срэбраныя.

Усяго 743 вучні на Маладзечаншчыне атрымалі сярэднюю адукацыю. Такім чынам, 13,86% выпускнікоў скончылі школу на выдатна.

Сярод усіх устаноў адукацыі Маладзечанскага раёна лідарам па медалістах стала гімназія-каледж мастацтваў, якая выпусціла 19 выдатнікаў. 14 залатых медалёў атрымалі былыя 11-класнікі гімназіі №10. 12 залатых і адзін сярэбраны медаль атрымалі выдатнікі сярэдняй школы №14.

Гімназія №6 узяла восем медалёў, сш №2 – шэсць, а гімназія №7 – пяць.

Па чатыры медалі зарабілі выпускнікі гімназіі №3, школы №11, красненскай і чысцінскай школ.




Ілюстрацыйнае фота kp.ru.

Людзі з інвалюднасцю лічаць, што па дакументах ім павінны былі даць больш прадуктаў.

# Людзі з інваліднасцю лічаць, што «гуманітаркі» атрымалі менш, чым трэба

ВІЛЕЙКА

**Пару месяцаў таму людзі з інваліднасцю з Ілы і навакольных вёсак звярнуліся да Вілейскага раённага таварыства «Чырвоны крыж», каб атрымаць у дапамогу прадуктовыя наборы.**

### Людзі з інваліднасцю: Няўжо нас падманваюць?

У хуткім часе атрымалі прадукты. У каробках была бакалея – цукар, рыс, мука, аўсянка, іншыя прадукты. Усё нямецкай вытворчасці, распавёў карэспандэнту адзін з тых людзей, ільянец **Віктар Філістовіч.**

Па словах Віктара, усе, хто атрымаў дапамогу, падпісалі дакументы. Праз нейкі час людзі з інваліднасцю даведаліся, што павінны былі атрымаць дапамогі на два кілаграмы больш. Узнікла пытанне: чаму так?

– Справа не ў гэтых двух кілаграмах, а ў маральнасці і чалавечнасці. Няўжо нас, інвалідаў, падманваюць? – дзеліцца Віктар.

### «Чырвоны крыж»: паперы падпісалі, прадукты з'елі. Як цяпер усё праверыць?

Мы звязаліся са старшынёй Мінскай абласной арганізацыі «Чырвоны крыж» **Людмілай Мусянковай** і папрасілі пракаментаваць сітуацыю.

Людміла Сяргееўна ў курсе праблемы з гуманітарнай дапамогай у Ілы. Як толькі пачаліся скаргі, яна ездзіла туды ў камандзіроўку, каб разабрацца.

– Ніколі ад Вілейшчыны ў нас не было ніякіх скаргаў, – распавядае старшыня. – А на гэты раз здарылася вось што. Людзі атрымалі прадуктовыя наборы. Праз месяц-паўтара звярнуліся па прадукты зноў. Я адказала, што яны нядаўна атрымлівалі прадуктовыя наборы і пералічыла ў адказе, колькі і чаго было ў тых каробках. Тады некаторыя з людзей пачалі казаць, што за месяц яны не змаглі б столькі з'есці. А прадукты ж з'едзеныя, у паперах людзі распісаліся, як цяпер нешта праверыш? Хаця я ўпэўненая, што ўсё там было правільна. Да таго ж скаргі паступілі ад чацвярых. Астатнія тры сям'і ўсім задаволеныя.

Па словах Людмілы Мусянковай, падчас камандзіроўкі ў Ілью яна знайшла ўзаемапаразуменне з мясцовымі людзьмі з інваліднасцю. Нават вырашылі стварыць з іх валанцёрскі атрад, каб людзі аб'ядналіся, дапамагалі адзін аднаму, супольна вырашалі праблемы. Старшынёй Людміла Мусянкова хацела б бачыць Віктара Філістовіча.

– Вось якраз цяпер разглядаю ліст з просьбамі з Ілы. Просяць паспрыяць у тым, каб 11 жыхарам далі першую групу інваліднасці. Гэта не ў нашай кампетэнцыі. Буду звяртацца ва Упраўленне аховы здароўя Мінскай вобласці. Таксама просяць пасцельную бялізну, вопратку, мікрахвалёўку, тэлевізар. Мы заўсёды стараемся дапамагчы, калі гэта ў нашых сілах, – падсумавала старшыня.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## У аўтобусах у спёку працавала печка. Аўтапарк тлумачыць сітуацыю

МАЛАДЗЕЧНА

**Маладзечанец Аляксандр Яроменка распавёў пра гарачую паездку дзявятага чэрвеня.**

– Ехаў маршрутам №10, які адпраўляецца ад Лядовага палаца ў бок цэнтра ў 13:38. Чэрвень, +25. А ў гарадскім аўтобусе замест кандыцыянера працуе печка, – удакладніў «РГ» **Аляксандр Яроменка**.

У чым прычына такой сітуацыі, мы папрасілі патлумачыць галоўнага інжынера аўтапарка №4 **Аляксандра Рогача**.

Спецыяліст патлумачыў, што ў некаторых аўтобусах забітыя радыятары, многія з іх падлягаюць замене. Днямі прамылі 10-15 штук.

Такая праблема асабліва вострая для аўтобусаў-гармонікаў. У іх батарэі каля рухавіка заўсёды гарачыя. Такі канструктарскі недахоп гэтай мадэлі.

– Мы праблему ведаем. Працуем над вырашэннем, – падсумаваў галоўны інжынер.

**Зоя ХРУЦКАЯ**

ЛІЧБА НУМАРА

**26**

СТОЛЬКІ ПАПЯРЭДЖАННЯЎ ЗРАБІЛІ Ў МІНУЛЫЯ ВЫХАДНЫЯ ВЫРАТАВАЛЬНІКІ КУПАЛЬШЧЫКАМ НА ВІЛЕЙСКІМ ВАДАСХОВІШЧЫ

ПА ІНФАРМАЦЫІ ВІЛЕЙСКАЙ ВЫРАТАВАЛЬНАЙ СТАНЦЫІ

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 6.06 | 13.06 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 2.0985 | **2.0722** |
| Еўра | 2.3648 | **2.3489** |
| Злоты, 10 | 5.5347 | **5.5075** |
| Расійскі рубель, 100 | 3.2249 | **3.2022** |
| Грыўня, 100 | 7.7829 | **7.8306** |

| Курсы ў «Банку БелВЭБ» | 5.06 | 12.06 |
|---|---|---|
| Еўра | 2.3400/2.3670 | **2.3200/2.3500** |
| Долар ЗША | 2.0880/2.1060 | **2.0500/2.0750** |

ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 5.06 | 12.06 |
|---|---|---|
| | Цана, руб. | |
| Кілбаса «Мядовая», 1 кг | 19,80 | **19,80** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 3,70 | **3,70** |
| Сасіскі «Малочныя», 1 кг | 7,37 | **7,37** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 10,00 | **10,00** |
| Карп жывы, 1 кг | 4,30 | **4,70** |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 5,80 | **5,80** |
| Селядзец, 1 кг | 5,50 | **5,50** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 14,50 | **14,50** |
| Грэчка, 0,8 кг | 1,30 | **1,30** |
| Рыс, 0,8 кг | 1,85 | **1,85** |
| Алей, 1 л | 3,00 | **3,00** |
| Кава «Nescafe», 100 г | 4,80 | **4,80** |
| Маянэз, 400 г | 2,20 | **2,20** |
| Соус «Мінскі», 0,5 л | 1,60 | **1,60** |
| Шпроты, бляшанка, 160 г | 1,80 | **1,80** |
| Яйкі курыныя, 1 дз. | 1,20 | **1,20** |
| Агуркі, 1 кг | 1,20 | **1,20** |
| Баклажаны, 1 кг | 5,20 | **4,30** |
| Бульба, 1 кг | 1,70 | **1,75** |
| Буракі, 1 кг | 1,80 | **1,60** |
| Кабачок, 1 кг | – | **1,50** |
| Капуста, 1 кг | 0,89 | **0,90** |
| Капуста пекінская, 1 кг | 2,30 | **2,30** |
| Морква, 1 кг | 1,60 | **1,90** |
| Памідоры, 1 кг | 2,99 | **2,99** |
| Перац, 1 кг | 6,90 | **6,50** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 1,60 | **1,70** |
| Часнок, 1 кг | 4,90 | **4,90** |
| Шампіньёны, 1 кг | 5,50 | **5,50** |
| Абрыкосы, 1 кг | 5,90 | **4,90** |
| Бананы, 1 кг | 2,95 | **2,99** |
| Вінаград, 1 кг | 6,90 | **7,50** |
| Грушы, 1 кг | 2,95 | **2,50** |
| Клубніцы, 1 кг | 4,00 | **1,60** |
| Лімоны, 1 кг | 4,90 | **4,90** |
| Мандарыны, 1 кг | 3,80 | **3,80** |
| Персікі, 1 кг | 6,50 | **5,90** |
| Чарэшня, 1 кг | 7,90 | **6,00** |
| Яблыкі, 1 кг | 1,40 | **1,50** |
| СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ | | |
| Малако, 1,5 л | 1,50 | **1,50** |
| Масла, 1 кг | 15,00 | **15,00** |
| Сала, 1 кг | 12,50 | **12,50** |
| Сыр, 1 кг | 12,00 | **12,00** |
| Тварог, 1 кг | 7,00 | **7,00** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 3,00 | **3,00** |

## ДАІ спыніла аўтамабіль. А ў прычэпе – крадзеныя будматэрыялы

**МАЛАДЗЕЧНА**

Супрацоўнікі ДАІ Маладзечанскага РАУС спынілі для праверкі аўтамабіль з прычэпам. Прычэп даверху быў запоўнены выкрадзенымі будматэрыяламі.

На вуліцы Тамары Дудко ў Маладзечне ўвагу супрацоўнікаў Дзяржаўтаінспекцыі прыцягнуў аўтамабіль Volkswagen Sharan, які рухаўся па сустрэчнай паласе з бартавым тэнтавым прычэпам. Кіроўцу спынілі ў двары шматпавярховак.

У прычэпе аўтамабіля супрацоўнікі ДАІ знайшлі будаўнічыя матэрыялы – 27 пліт пенапласту і тры ўпакоўкі цеплаізаляцыйных пліт. Аднак дакументаў, якія пацвярджаюць набыццё такой колькасці будматэрыялаў, не аказалася. Легкавік з прычэпам, кіроўцу і пасажыра даставілі ў Маладзечанскі РАУС.

Па словах 32-гадовага кіроўцы, яны з таварышам, які быў у аўтамабілі, працуюць на будоўлі. У той дзень прыехалі на працу раней, чым звычайна. У адным з пад'ездаў шматпавярховікі заўважылі уцяпляльнік з пенапласту і шклаваты.

**Знайшоўшы момант, калі вартаўнік не будзе бачыць, знойдзенае пагрузілі ў аўтамабіль, а ўвечары сабраліся вывезці на дачу ў Вілейскі раён.**

Па дарозе іх і затрымалі супрацоўнікі ДАІ.

Кошт скрадзенай маёмасці ацанілі ў **235 рублёў**. У дзеяннях фігурантаў справы ўгледжваецца склад адміністрацыйнага правапарушэння, прадугледжанага арт. 10.5 КаАП Рэспублікі Беларусь «Дробны крадзеж». Ім пагражае штраф альбо адміністрацыйны арышт.

**Паводле УУС Мінаблвыканкама**

## На полі гарэў камбайн

**АШМЯНЫ**

Здарэнне адбылося ўчора, 11 чэрвеня, каля 11 гадзін.

У вёсцы Дукойні загарэўся кормаўборачны камбайн падчас нарыхтоўкі кармоў. Агонь пашкодзіў маторны адсек, салон і колы.

Верагодная прычына – кароткае замыканне ў маторным адсеку.

**Паводле сайта МНС.**

## У возеры патануў мужчына

**СМАРГОНЬ**

Трагедыя здарылася ў суботу, восьмага чэрвеня, каля 19.00.

52-гадовы мужчына адпачываў на Смаргоншчыне, у вёсцы Белая, на аднайменным возеры.

Ён купаўся ў месцы, неабсталяваным для адпачынку і купання, і патануў.

Як паведамляе Следчы камітэт, загінулы – жыхар Смаргоні. Сваякі спрабавалі выратаваць яго, але не змаглі.

Следчыя высветлілі, што да таго, як зайсці ў ваду, мужчына са сваякамі выпіваў.

**Паводле Следчага камітэта Рэспублікі Беларусь.**

## Віляйчанку падазраюць у занятках прастытуцыяй

**ВІЛЕЙКА**

Пра гэта «Рэгіянальнай газеце» распавялі ў групе па наркакантролі і супрацьдзеянні гандлю людзьмі крымінальнай міліцыі Вілейскага РАУС.

Фігурантка – 27-гадовая віляйчанка, якая нідзе не працуе. Брала за інтымныя паслугі 50 долараў.

Як даведаліся ў міліцыі, такія паслугі жанчына аказвала не адзін раз.

Калі затрымалі, растлумачыла, што займаецца прастытуцыяй з-за цяжкага матэрыяльнага становішча.

Жанчыне пагражае адміністрацыйная адказнасць.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## У нядзелю здарылася два пажары на Смаргоншчыне

**СМАРГОНЬ**

Дзявятага чэрвеня дзве гаспадарчыя пабудовы гарэлі на Смаргоншчыне.

Першы пажар здарыўся каля гадзіны дня ў вёсцы Шутавічы. Агонь пашкодзіў перакрыцці, сцены, дах і маёмасць, што была ў будынку.

Верагодная прычына – падпал.

Другі пажар адбыўся ўвечары, каля дзевяці, у Кушлянах. Пашкоджанні ў гаспадарчай пабудове прыкладна тыя ж: перакрыцці, сцены, дах.

Меркаваная прычына – неасцярожнае абыходжанне з агнём невядомага.

**Паводле сайта МНС.**



Перапіска ў сацсетках можа прынесці непрыемнасці.

Фота cre.ru

# Жанчына па перапісцы вымагала грошы за інтымную фотку

## І апынулася мужчынам з Лагойска

**МАЛАДЗЕЧНА**

**35-гадовы жыхар райцэнтра атрымаў непрыемнасці з-за таго, што адпраўляў інтымныя фотаздымкі ў сацыяльнай сетцы.**

Гісторыя пачынаецца ад 2015 года. Маладзечанец у сацыяльнай сетцы знайшоў акаўнт незнаёмкі, з якой завёў перапіску. З часам віртуальныя адносіны выйшлі за межы штодзённых пытанняў, а ў асабістай перапісцы з'явіўся інтымны здымак маладзечанца. Гэта надало анлайн-размове зусім іншы паварот. Незнаёмка пачала вымагаць грошы. Маўляў, калі суразмоўца не заплаціць, фота ўбачаць яго знаёмыя і сябры.

На вуду аферысткі маладзечанец не трапіўся. Тут жа выдаліў старонку ў сацыяльнай сетцы і зарэгістраваўся нанова.

А фота, па яго словах, знайшоў у інтэрнэце. Аднак гэта не апраўдвае яго. Па выніках экспертызы выяву прызналі парнаграфічнай. У яго дзеяннях знайшлі склад злачынства, прадугледжанага артыкулам Крымінальнага кодэкса «Выраб і распаўсюд парнаграфічных матэрыялаў або прадметаў парнаграфічнага характару». За гэта пагражае ад двух да чатырох гадоў пазбаўлення волі.

Падчас праверкі міліцыянеры ўстанавілі, што ў фігуранта ёсць яшчэ адзін акаўнт у сацыяльнай сетцы, зарэгістраваны пад несапраўдным імем. Пачынаючы ад мінулага года, у адкрытым доступе мужчына размяшчаў гіфкі, якія экспертыза таксама прызнала парнаграфіяй.

Падазраваны гэта не адмаўляў. Патлумачыў, што стварыў уліковы запіс для разавых перапісак з жанчынамі.

Фігурант будзе адказваць перад законам па двух фактах. Раней ён фігураваў у крымінальных зводках, але за маёмасныя злачынствы.

За падобныя дзеянні прадугледжаная крымінальная адказнасць. Калі размяшчаеце або перасылаеце парнаграфічныя матэрыялы, не забывайцеся пра магчымыя наступствы.

Праваахоўнікі дазналіся, кім жа была дама, што спрабавала развесці маладзечанца на грошы. Стала вядома, што падобных кавалераў у яе з дзясятак.

Больш за тое, гэта зусім не дама. Па той бок манітора сядзеў жыхар Лагойска, які стварыў акаўнт пад прыдуманым імем для віртуальных забаў. У яго адносінах таксама ўзбудзілі крымінальную справу за распаўсюд парнаграфіі.

**Паводле УУС Мінаблвыканкама.**

## За выхадныя на Вілейскім вадасховішчы – 26 папярэджанняў

**ВІЛЕЙКА**

Спякотнымі выхаднымі на Вілейскім вадасховішчы, як заўжды, было шмат адпачываючых.

**26 з іх атрымалі папярэджанні ад вілейскіх выратавальнікаў.**

У Вілейскай выратавальнай станцыі распавялі, за што папярэджвалі:

- плавалі на лодках без выратавальных камізэлек
- плавалі на матрасах. Матрас не належыць да сродкаў для плавання;
- заплывалі за буі;
- непаўналетнія знаходзіліся на вадасховішчы без бацькоў.

Як паведамілі на станцыі, тэмпература вады ў Вілейскім вадасховішчы – 20 градусаў.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Зніклую жыхарку Пугачоў знайшлі загінулай

**ВАЛОЖЫН**

Пра гэта расказалі актывісты пошукавага атрада «Анёл».

Вядома, што першага чэрвеня каля 14.30 46-гадовая **Наталля Бізун** пайшла з дома ў невядомым накірунку.

Яе знайшлі загінулай недалёка ад Пугачоў.

**Аддзел інфармацыі.**

## На Нарачанцы затрымалі браканьера за лоўлю вугра

**ВІЛЕЙКА**
**МЯДЗЕЛ**

Інцыдэнт адбыўся на мяжы Вілейскага і Мядзельскага раёнаў на рацэ Нарачанка.

Пра гэта праінфармавала прэс-служба Дзяржінспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету. Браканьер лавіў рыбу ў забалочанай пойме. Мужчыну змаглі высачыць з дапамогай квадракоптара.

Калі затрымалі рыбалова, у яго было пяць вугроў і лінь. Агульная вага кантрабанднага ўлову склала восем кілаграмаў.

Устанавілі, што 39-гадовы жыхар Мядзела раней ужо прыцягваўся да крымінальнай адказнасці.

**Тры гады таму парушальніка затрымлівалі за здабычу сарака рыбін. Ён заплаціў штраф у памеры пяць з паловай мільёнаў недамінаваных рублёў.**

У ведамстве інфармуюць, што аматарская лоўля вугра ў Беларусі забароненая.

**Паводле АНТ.**

# «Рэгіянальную газету» сын прывозіць маці на Смаргоншчыну

**Днямі да нас у рэдакцыю прыйшоў ліст са Смаргоншчыны ад чытачкі Яўгеніі Кулевіч.**

«Я з 1935 года. Даўно ўжо пенсіянерка. Выкладала ў школе мову і літаратуру, добра памятаю вайну і разруху ў краіне.

**Мой сын Віктар Кулевіч жыве ў Маладзечне. Тут працуе выхавацелем у школе-інтэрнаце для дзяцей са скалёзам. Ён часта мне прывозіць вашы газеты. Шматлікія артыкулы ў ёй вартыя ўвагі.**

Вось, у мяне ў руках газета ад 17 мая. Вельмі зацікавіў і ўсцешыў артыкул «Пра школьны музей і кнігу лебедзеўскага настаўніка з прадмовай Барыса Кіта». Нездарма год малой радзімы аб'яўлены на трохгадовы тэрмін. Прыцягваецца ўвага да дасканалага вывучэння спадчыны свайго краю. Дзякуючы артыкулу, даведалася пра настаўніка **Антона Апанасевіча.** І хоць асабіста з ім не знаёмая, ведаю, што ён сапраўдны руплівец гісторыі радзімы.

Гэта ж такая тытанічная праца – ствараць музей, выдаць кнігу «Лебедзеўская сага» пра гісторыю Лебедзева. У кнізе – архіўныя дакументы і жывыя ўспаміны мясцовых жыхароў. Успаміны – гэта жывая памяць, на якой выхоўваюцца будучыя пакаленні.

Незанатаваная памяць страчваецца. Такая ўжо прырода чалавека. Чалавек, жывучы на зямлі, працягвае справу сваіх бацькоў і ашчадна перадае яе сваім дзецям. Калі ж памяці няма, ланцужок перарываецца. А на месцы разрыву пасяляецца зло.

Уражанні пра настаўніка ў артыкуле ярка і дакладна занатавала навучэнка Антона Антонавіча.

**Можна меркаваць, што не толькі яна, але і большасць вучняў Антона Апанасевіча будуць шчырымі руплііўцамі ў перадачы спадчыны новым пакаленням.**

Кожны сённяшні дзень будзе імі заўтра занатаваны як гісторыя краю.

Такія кнігі, як «Лебедзеўская сага» трэба падтрымліваць, выдаваць вялікімі тыражамі, рэкламаваць і распаўсюджваць і ў рэгіёне, і за яго межамі.

Шчыра жадаю Антону Антонавічу плёну ў яго такой патрэбнай людзям працы і ўсяго найлепшага ў жыцці.

Таксама жадаю поспехаў «Рэгіянальнай газеце». Газета цікавая, змястоўная. Так трымаць далей! »

**Яўгенія КУЛЕВІЧ, вёска Сялец Смаргонскага раёна.**

**Ад рэдакцыі**
Мы ўдзячныя шаноўнай Яўгеніі Кулевіч за добрыя словы пра газету. І звяртаемся да ўсіх нашых чытачоў: падпішыце сваіх бацькоў на «Рэгіянальную газету».

## Падпішы бацькоў на «Рэгіянальную газету»!



### Ідзе падпіска на другое паўгоддзе

### Падпісацца на «РГ» можна:

✓ **праз сайт «Белпошты»**

Рэгіструемся на сайце. Заходзім у акно інтэрнэт-плацяжоў, выбіраем «Афармленне падпіскі на друкаваныя сродкі масавай інфармацыі», выбіраем «Алфавітны». Выбіраем тып падпіскі (індывідуальная ці ведамасная).

Ціснем літару «Р», справа гартаем старонкі, пазначаныя сінім колерам. Пад індэксам 632122 – «Рэгіянальная газета»

✓ **на пошце**
✓ **праз паштальёна**
✓ **праз плацежна-даведачны тэрмінал**

Цана **індывідуальнай падпіскі:**
- на месяц – 4 рублі 50 капеек;
- на тры месяцы – 13 рублёў 50 капеек;
- на паўгоддзе – 27 рублёў.

Цана **ведамаснай падпіскі:**
- на месяц – 13 рублёў 50 капеек;
- на тры месяцы – 40 рублёў 50 капеек;
- на паўгоддзе – 81 рубель.

Вы можаце скарыстацца **скідкай за дастаўку**, калі самі будзеце забіраць газету або ў абаненцкай скрыні, або атрымліваць да запатрабавання.

**ПАДПІСНЫ ІНДЭКС:** *63212 (індывідуальная)*
*632122 (ведамасная падпіска).*



# Арганізацыя, у якой аказваюць каля сотні паслуг

**Тут вызначаць межы зямельнага надзела, зарэгіструюць нерухомасць, ацэняць маёмасць і правядуць тапаграфічную здымку… Сёння супрацоўнікі Маладзечанскага філіяла РУП «Мінскае абласное агенцтва па дзяржаўнай рэгістрацыі і зямельным кадастры» аказвае каля ста паслуг.**

### Здзелкі з нерухомасцю сталі больш хуткімі

Аб'екты нерухомасці неабходна рэгістраваць, кажа начальнік філіяла **Уладзімір Барысенка.** Дзяржаўная рэгістрацыя – гэта юрыдычны акт прызнання і пацвярджэння дзяржавай правоў на нерухомасць.

**Здзелкі з нерухомасцю таксама падлягаюць дзяржаўнай рэгістрацыі. Такія здзелкі абароненыя законам, а значыць, павінны быць празрыстымі.**

Работнікі Маладзечанскага філіяла РУП «Мінскае абласное агенцтва па дзяржаўнай рэгістрацыі і зямельным кадастры», акрамя Маладзечаншчыны, працуюць на Мядзельшчыне, Вілейшчыне, Валожыншчыне.

Да нядаўняга часу спецыялісты маглі засведчваць дагаворы і рэгістраваць толькі тую маёмасць, якая знаходзіцца на Маладзечаншчыне. Інфармацыяй пра будынкі ў іншых гарадах рэгіёна не валодалі, бо не мелі доступу да яе.

Каб правесці неабходную здзелку, людзі мусілі пераадольваць вялікія адлегласці. Але ў сярэдзіне 2018 года ўнеслі змены ў Закон «Аб дзяржаўнай рэгістрацыі нерухомай маёмасці, праў на яе і здзелак з ёй». І цяпер рэгістрацыю можна праводзіць па экстэрытарыяльным прынцыпе.

Што гэта значыць? Напрыклад, чалавек жадае падарыць каму-небудзь са сваякоў свой дом за межамі Міншчыны. Цяпер зрабіць гэта значна прасцей, бо рэгістратары нерухомасці маюць доступ да інфармацыі аб аб'ектах нерухомасці, зарэгістраваных на ўсёй Беларусі. Значыць, могуць атрымаць усю пра іх інфармацыю: месцазнаходжанне, характарыстыкі. А таксама засведчваць дагаворы адчужэння і іншыя пагадненні ў дачыненні да нерухомасці ў любым населеным пункце Беларусі.

**Людзям не трэба ехаць за сотні кіламетраў. Гэта эканоміць час, сілы і грошы, звяртае ўвагу рэгістратар нерухомасці Алла Барташ.**

Так, некалі пенсіянер з Маладзечна захацеў аформіць дагавор дарэння дома на Смаргоншчыне на дачку. У сталага чалавека – праблемы з суставамі ног, ездзіць далёка яму цяжка. Спецыялісты РУП «Мінскае абласное агенцтва па дзяржаўнай рэгістрацыі і зямельным кадастры» зрабілі запыт у Нацыянальнае кадастравае агенцтва і атрымалі ўсе звесткі для афармлення дагавора дарэння. Здзелку аформілі ў той жа дзень. Раней на гэта патрабавалася больш за тыдзень.

Спецыялісты па ацэнцы нерухомасці граматна і абгрунтавана ацэньваюць зямельныя надзелы, капітальныя пабудовы, памяшканні. Такая інфармацыя неабходная для продажу на таргах, крэдытавання, унясення залогу, падзелу маёмасці.

– Глыбокі аналіз рынку нерухомасці – аснова нашай працы, – кажа ацэншчык **Кацярына Кісель.** – Крытэрый ацэнкі маёмасці – ступень яго запатрабаванасці. Ад гэтага залежыць кошт. Ёсць у працы пэўныя цяжкасці. Напрыклад, нейкі аб'ект знаходзіцца ў вёсцы. Каб яго ацаніць, трэба знайсці аналагічны па функцыянальным прызначэнні, параўнаць і ўстанавіць рыначны кошт. Нярэдка такім аб'ектам можа быць не толькі будынак, а інкубатар або збожжасушылка.

– Мы заўсёды імкнуліся да павышэння адукацыйнага ўзроўню работнікаў: ад інжынераў да геадэзістаў. Яны павышаюць кваліфікацыю, атрымліваюць адпаведную атэстацыю.

**Гэта абавязкова, бо наша праца звязаная са змяненнямі ў нарматыўна-прававой базе. Таму неабходна заўсёды быць у курсе змен,**

– кажа начальнік філіяла Уладзімір Барысенка.

Аддзел землеўпарадкавання і інжынерных збудаванняў Маладзечанскага філіялу РУП «Мінскае абласное агенцтва па дзяржаўнай рэгістрацыі і зямельным кадастры» аказвае паслугі па устанаўленню (аднаўленню) межаў зямельных надзелаў, тапаграфічнай здымцы мясцовасці і інвентарызацыі інжынерных збудаванняў.

### Для вясковых жыхароў

У Маладзечанскім філіяле не першы год практыкуюць выязныя прыёмы рэгістратараў нерухомасці ў сельвыканкамы. Графік складаюць на год наперад.

Папярэдне аб'явы аб прыёме размяшчаюцца ў сельвыканкамах, у грамадскіх месцах, на сайце агенцтва, у друкаваных СМІ.

Летась выязныя прыёмы правялі ў 34 сельвыканкамах. Такую працу працягваюць і сёлета.

**Выязджаючы на вёскі, спецыялісты прымаюць заявы на тэхнічную інвентарызацыю, дзяржаўную рэгістрацыю, бясплатна кансультуюць грамадзян.**

За дзень па папярэднім запісе прымаюць ад 10 да 15 чалавек.

**Ксенія ДУРОВІЧ.**

УНП 600199462

# ПРЫВАТНЫЯ АБ'ЯВЫ

Транспарт • Нерухомасць • Паслугі • Праца • Рознае

* Аб'явы, пазначаныя зорачкай, змешчаныя ў інтэрнэцы на сайце Rh.by


Дзе падаць аб'яву

МАЛАДЗЕЧНА Вялікі Гасцінец, 143, офіс 518. Тэл. 8 (0176) **53-78-04**, 8 (029) **676-84-20.**
АСТРАВЕЦ вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. 8 (01591) **2-11-40.**
АШМЯНЫ вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. 8 (01593) **7-56-17.**
ВАЛОЖЫН вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. 8 (01772) **6-13-85.**
ВІЛЕЙКА вул. Партызанская, 44, магазін «Парус». Тэл. 8 (01771) **2-00-83, 2-01-03;** вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. 8 (01771) **5-52-33, 5-55-39.**
МЯДЗЕЛ вул. 17 Верасня, 2. Тэл. 8 (01797) **5-52-66, 5-57-65.**
СМАРГОНЬ вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. 8 (01592) **3-30-77.**


## ВІНШАВАНКА

**Святлане Ягораўне ЖАЎНЯРОВІЧ з 65-годдзем!**

*Тебе в такой чудесный день*
*Желаем мы с любовью*
*Удачи, добрых перемен,*
*Прекрасного здоровья!*
*Пусть не тревожит сердце грусть,*
*Царит в семье согласье,*
*Дороги жизненные пусть*
*Приводят только к счастью!*

**З павагай, Бураковы, Крывашэй.**

## ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

• Джып Опель Антара, 2008 г.в., 2,4 газ-бензін, пастаянны поўны прывад. Т. (8-033) 6714366.

• Задні мост ад ЗІЛ-157, укарочаны, з новай гумай. 300 руб., торг. Т. (8-029) 5492191.*

### КУПЛЮ

• **АЎТО Ў ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДОРАГА! Т. (8-029) 1477209.***

• Аўто для сябе. Тэрмінова. Т. (8-029) 2016100, (8-029) 1563334.*

• Аўто, можна аварыйнае. Дорага. Т. (8-029) 5677052.*

• Любое аўто на хаду для сябе. Грошы адразу. Т. (8-029) 6412706, (8-029) 7646646.*

• Запчасткі для Ford Escort (1995-2000). Тэл. (8-033)3668181.*

• Каталізатар б/у. Т. (8-029) 9357762.*

## НЕРУХОМАСЦЬ

### ПРАДАЕЦЦА

• 2-пакаёвая кватэра ў Валожыне, 46,1 кв. м, 5 паверх. Т. (8-01772) 57861, (8-029) 9111113.*

• 2-пакаёвая кватэра ў г.п. цукровага завода «Гарадзея» Нясвіжскага раёна. Плошча – 44,3 кв.м, 2 паверх. Т. (8-033) 3423075, (8-0176) 541355.*

• 2-пакаёвая кватэра ў Маладзечне па вул. Скарыны, 36; 1/5 к, 2002 г.п., 49,2/27/8,9 кв. м, дзве зашклёныя лоджыі, уцепленая падлога, нацяжная столь, еўрарамонт, кухня па спецзаказе, выдатны стан. Т. (8-029) 3176269.*

• 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы па вул. Незалежнасці, 2 у добрым стане. Т. (8-029) 7039162.*

• 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы па вул. Незалежнасці, побач гараж з ямай і падвалам. Мэбля па жаданні. Т. (8-029) 5585482.*

• 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, 3 паверх 5-павярховага дома. Гатовая да пражывання. Цана дагаворная, без пасрэднікаў. Т. (8-029) 3772077.*

• 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, вул. Кастрычніцкая,- дом 34, кв.2 з усімі выгодамі, на першым паверсе. Т. МТС (8-029) 8597614.*

• 3-пакаёвая кватэра ў цэнтры Вілейкі. Т. (8-029) 5692836.

• Дом драўляны ў в. Замошша, дом 8, Вілейскі раён, 6х12, 72 кв. м, участак 20 сотак, святло, калодзеж, дзве печы. Т. (8-029) 2709140.*

• Дом драўляны ў в. Старыя Баруны (Смаргонскі раён), 25 сотак. Т.(8-029) 7754975.*

• Дом у в. Дзядзічы, 20 сотак, гаспадарчыя пабудовы. Т. (8-029) 5573729.

• Дом у в. Дубіна Валожынскага раёна. Т. (8-029) 5554926, (8-029) 6475203 Аляксей.*

• Дом у в. Заброддзе Даўгінаўскага с/с Вілейскага раёна, гаспадарчыя пабудовы, вялікі ўчастак, зямля ва ўласнасці. Т. (8-029) 6799099, (8-029) 8788264.*

• Дом у в. Кавалі, Ільянскі с/с. Т. (8-029) 1353067.*

• Дом у Вілейцы з усімі выгодамі, агульная плошча 78 кв. м. Т. (8-029) 7609173.

• Дом у дачным пасёлку «Дружба» в. Прынта. Цана дагаворная. Т. (8-029) 5448700.*

• Кватэра ў 2-павярховым доме, 1 паверх, у аг. Ерхі Вілейскага раёна, 67 кв. м, з выгодамі (ацяпленне-кацёл), гаспадарчыя пабудовы, падвал пад домам. Т. (8-029) 5094911 Людміла.

• Участак у в. Порса. 30 сотак. Побач газ. Т. (8-029) 1214671.*

### КУПЛЮ

• Дом або кватэру ў Мінскай вобласці. Тэл. (8-029) 1514441.*

## ПАСЛУГІ

### БУДАЎНІЧАЯ ТЭХНІКА

• Міні-экскаватар. Міні-пагрузчык. Трамбоўка 500 кг. ІП Карповіч В.В. УНП 692013268 Т. (8-029) 9381010.*

• Міні-экскаватар. Усе віды земляных работ (газ, вада, фундаменты, гідрабур пад фундамент на палях (свайные фундаменты). ІП Жак А.А. УНП 691515498. Т. (8-044)5522028.*

### ІНШЫЯ ПАСЛУГІ



• **СПІЛУЕМ ДРЭВЫ.** ІП Мамай У.А. УНП 692014435 Т. МТС (8-029) 8886923.*

• «Дах пад ключ». Металачарапіца, прафнасціл (ад 8,5 руб./кв.м), піламатэрыялы. Замер. Дастаўка. Мантаж. ІП Аноп С.М. УНП 190945853 Т. (8-029) 6668710, (8-033) 6333151.*

• Бухгалтарскі ўлік. ІП Сільцова М.І. УНП 691507537. Т. МТС (8-029) 7632186.*

• Выраб розных металавырабаў, варот, брамак, агароджаў з сеткі і прафнасціла, навесы і г.д. Замер, дастаўка, устаноўка. ІП Мазалеўскі М.В. УНП 691514343. Т. (8-029) 5081330.*

• Кладка, дах, фундамент. ІП Яновіч Ч.А. УНП 600163826 Т. (8-029) 5024571.*

• **МАНТАЖ-ДЭМАНТАЖ** дахаў, уцяпленне дамоў, афарбоўка, падшыва, абшыўка франтонаў сайдынгам і інш. ІП Бесараб А.В. УНП 691892579. Т. (8-029) 2754603, (8-044) 4654416.*

• Печы. Кладка. Рамонт. Дацкевіч В.Г. КА 7949758. Т. (8-044) 4771719.*

• Рамонт камп'ютараў і ноўтбукаў у Маладзечне. Дыягностыка і выезд па горадзе бясплатныя. ІП Мандрык А.А. УНП 692018244. Т. (8-033) 6659479.*

• Рамонт камп'ютараў, ноўтбукаў, маніtoраў, планшэтаў. ІП Тачылаў А.Н. УНП 691290239. Т. (8-029) 5754003, (8-029) 1559223.*

• Рамонт халадзільнікаў у Вілейцы. Выезд дадому. Гарантыя. ІП Буцер А. УНП 690259548. Т. (8-029) 5024691.*

• Рамонт халадзільнікаў. ІП Шапавал Г.В. УНП 690688393. Т. (8-029) 3395974.*

• **СПІЛОЎВАННЕ і АБРЭЗКА** дрэў. Магчымы вываз, выкарчоўванне пнёў. Скідкі. ІП Мамай Ю.А. УНП 691895935. Т. Вэлком (8-029) 3301964, МТС (8-029) 8177983.*

• **СПІЛУЕМ ДРЭВА.** Растэрміноўка. Скідкі. Акцыі. ІП Былінскі В.М. УНП 690475812. Т. (8-029) 5755757, (8-029) 3493379.*

## РОЗНАЕ

### ПРАДАЕЦЦА

• **Будматэрыялы, сантэхніка**

• Блокі газасілікатныя. Дастаўка. Разгрузка. Можна ў растэрміноўку. Т. (8-044) 7516244.*



• Цэгла віцебская, вогнеўпорная, пячное ліцё, кладачныя сумесі. Т. (8-029) 8351640, (8-044) 7557072.*

**Бытавая тэхніка**

• Халадзільнік. Т. (8-029) 3395974.*

**Камп'ютары, TV, сродкі сувязі**



• Антэна спадарожнікавая. Т. (8-029) 5019550, (8-025) 9228516.*

**Жывёла, птушка, пчолы**

• Козачкі маладзенькія (3 мес.) ад высокаўдойных коз. Т. (8-029) 5622787.*

• Козы дойныя пародзістыя. Валожынскі раён. Т. (8-029) 6433476.*

**Іншае**

• Бульба буйная на корм скаціне, 7 рублёў за мяшок. 14 мяшкоў. Любань. Вілейскі раён. Т. (8-029) 7647500.

• Электрамаслабойка новая расійскай вытворчасці. Т. (8-033) 3423075.*

### КУПЛЮ

**Бытавую тэхніку**

• Няспраўныя плазменныя і LCD тэлевізары. Т. (8-029) 5634740.*

**Камп'ютары, TV, сродкі сувязі**

• **ЖК-ТЭЛЕВІЗАР**, ЖК-манітор, ноўтбук, калонкі, узмацняльнікі, можна на запчасткі. Т. (8-029) 5613972.*

**Іншае**

• 4-ы том Беларускай энцыклапедыі, выдав. «Беларуская Энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі, 1996. Т. (8-029) 6550799.*

• Літаратуру на польскай або іншых заходнеславянскіх мовах. Т. (8-029) 5019550, (8-025) 9228516.*

### ІНШАЕ

• Вазьму спадарожнікаў у Беласток. Бясплатна. Т. (8-029) 2664373.*

## ПРАЦА

### ПАТРАБУЕЦЦА

• Настаўнік па рабоце з камп'ютарам. Т. (8-029) 5019550.*

ПАДАЧА АБ'ЯЎ І РЭКЛАМЫ У БЛІЖЭЙШЫ НУМАР «РЭГІЯНАЛЬНАЙ ГАЗЕТЫ» – да 16:00 серады.
Аддзел рэкламы: (8-0176) 53-78-04 (тэл./факс), (8-029) 676-84-20, 573-28-47.
E-mail: reklama@rh.by.



**Тэлефонныя коды гарадоў рэгіёну:**

| | |
|---|---|
| Астравец | -01591 |
| Ашмяны | -01593 |
| Валожын | -01772 |
| Вілейка | -01771 |
| Маладзечна | -0176 |
| Мядзел | -01797 |
| Смаргонь | -01592 |

## Забаранілі наведваць лясы

СМАРГОНЬ
АШМЯНЫ
АСТРАВЕЦ

Забарону ад 11 чэрвеня ўвялі ў лясах Смаргоншчыны, Ашмяншчыны, Астравеччыны, паведамляюць у прэс-службе Мінлясгаса.

Наведванне забаранілі у сувязі з высокім класам пажарнай небяспекі і адсутнасцю дажджу.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Да залатых медалёў выпускнікам давалі прэміі

АСТРАВЕЦ

У Астравецкім раёне дзесяць выпускнікоў атрымалі залатыя медалі.

Гэта **Арына Букель, Аліна Вайшнаровіч, Аліна Мацкевіч, Анастасія Шыленка** з астравецкай гімназіі, **Дыяна Бяседская, Эрнэст Масевіч, Канстанцін Сыс** з Гервяцкай школы, **Паліна Вайткевіч** са школы №1, **Нэлі Качан** – з Альхоўскай школы і **Аліна Мядзейша** з Варнян, паведамляюць у райвыканкаме.

Акрамя медалёў, дзяўчаты і хлопцы атрымалі ад старшыні райвыканкама **Ігара Шалудзіна** адмысловыя статуэткі «Залаты выпускнік-2019» і кожны – грашовую прэмію ў сем базавых велічынь – 178 рублёў 50 капеек.

**Паводле сайта Астравецкага райвыканкама.**

## Маладзечанец – новы ўдзельнік рэаліці-шоу «Дом-2»

МАЛАДЗЕЧНА

Хлопца завуць **Уладзіслаў Акушка.** Яму 23.

Як паведамляе сайт dom-2.club, Улад шмат займаецца боксам. На шоу гатовы абараняць дзяўчат.

Маладзечанец прыйшоў на праект да **Насці Міласлаўскай** 10 чэрвеня. Падарыў дзяўчыне мяккую цацку і кветкі. Яна папрасіла пакінуць Уладзіслава ў «Доме-2».

**Паволе dom-2.club.**

● ПАДАТКОВАЯ ІНСПЕКЦЫЯ

## Аб праверцы пярвічных уліковых дакументаў на адпаведнасць патрабаванням заканадаўства

Падатковы кодэкс ускладае на падаткаплацельшчыкаў абавязак па праверцы пярвічных уліковых дакументаў на прадмет іх адпаведнасці патрабаванням заканадаўства. У выпадку іх афармлення ад імя беларускай арганізацыі або беларускага прадпрымальніка – правяраць іх прыналежнасць адпраўніку тавара і дзейнасць бланка такога дакумента.

Інфармацыя аб пакупніку бланкаў, даце рэалізацыі бланка, прызнанні бланка несапраўдным утрымліваецца у электронным банку дадзеных бланкаў дакументаў і дакументаў з пэўнай ступенню абароны з'яўляецца агульнадаступнай інфармацыяй. Яе можна трымаць праз інтэрнэт па адрасе blank.bisc.by.

Больш падрабязная інфармацыя па праверцы пярвічных уліковых дакументаў размешчаная на сайце rh.by.

## Асаблівасці прыняцця да выліку НДС сельгас-арганізацыямі

Падчас правядзення наступнага камеральнага кантроля падатковыя органы нярэдка знаходзяць выпадкі, калі сельскагаспадарчыя арганізацыі набываюць угнаенні, ядахімікаты і іншыя тавары за кошт асабістых сродкаў. А пасля атрымліваюць бязвыплатнае бюджэтнае фінансаванне на іх закупку. Пры гэтым не аднаўляюць – не выключаюць з падатковых вылікаў сумы падатка на дададзеную вартасць па дадзеных пакупках.

Больш падрабязная інфармацыя па дадзеным пытанні размешчаная на сайце rh.by.

## Парадак ажыццяўлення фізічнымі асобамі дзейнасці па заяўніцкім прынцыпе без рэгістрацыі ІП

Фізічныя асобы, за выключэннем замежных грамадзян і асобаў без грамадзянства, якія часова жывуць у Беларусі, маюць права без рэгістрацыі ў якасці індывідуальнага прадпрымальніка здзяйсняць некаторыя віды дзейнасці з выплатай адзінага падатка.

Падрабязная інфармацыя пра віды дзейнасці і парадак яе ажыццяўлення па заяўніцкім прынцыпе, без рэгістрацыі ў якасці індывідуальных прадпрымальнікаў размешчаная на сайце маладзечанскага райвыканкама **molodechno.Minsk-region.by.**

**Інспекцыя МПЗ па Маладзечанскім раёне.**



Дзеці на спартыўнай пляцоўцы.



Насценны цягнічок.



Пляцоўка не толькі вясёлая, але і карысная.

# Як бавяць час у садках летам на спартыўных пляцоўках

СМАРГОНЬ

**Лета любяць і дарослыя, і дзеці. Летам можна нагуляцца, набегацца, стаць мацнейшым, падрасці, даведацца новае.**

Галоўная задача ўстановы дашкольнай адукацыі на лета – арганізаваць жыццё дашкалят так, каб кожны дзень прыносіў што-небудзь новае, быў напоўнены цікавым зместам. Каб ўспаміны аб летніх вакацыях, гульнях, шпацырах, святах і забавах яшчэ доўга радавалі.

Найважнейшай задачай ясляў-садка №13 Смаргоні з'яўляецца захаванне і ўмацаванне здароўя дзяцей, выхаванне жыццерадаснага, гарманічна і творча развітага дзіцяці.

**Знаходжанне дзяцей на свежым паветры мае вялікае значэнне для фізічнага развіцця, з'яўляецца першым і найбольш даступным сродкам загартоўвання дзіцячага арганізма.**

Каб ўсебаковага развіваць дзяцей і забяспечыць іх разнастайнай дзейнасцю, калектыў ясляў-садка №13 адмыслова аформіў спартыўную пляцоўку. На гэтай пляцоўцы шмат абсталявання: сцяна з вертыкальнымі мішэнямі для кідання, дарожка для прафілактыкі плоскаступнёвасці, дробны спартыўны інвентар, паласа перашкод, насценны цягнік з кішэнькамі для раздатачнага спартыўнага інвентара – сцяжкоў, гантэляў, абручоў і іншых.

**Ёсць вынасныя снарады – грыб, цыпляты для кідання кольцаў і мячоў, мішэнь, дугі і тунэлі, мяккі модуль і іншыя.**

Лета ў дзіцячым садзе – насычаны час, напоўнены смехам, радасцю і весялосцю. Усе намаганні работнікаў установы накіраваныя на аздараўленне і гартаванне дзіцячага арганізма.

**Таццяна ВАСІЛЕЎСКАЯ, намеснік загадчыка па асноўнай дзейнасці ясляў-садка №13 Смаргоні.**
**Фота забяспечанае аўтарам.**



На адной з фестывальных пляцовак.


Беларускі хэнд-мэйд.

# «Маладзечна-2019»: канцэрты, выставы і паэты

**На выхадных у Маладзечне прайшоў Нацыянальны фестываль беларускай песні і паэзіі. Традыцыйнае свята было прысвечанае 75-й гадавіне вызвалення Беларусі і Году малой радзімы.**

На галоўным музычным свяце горада абсталявалі тэматычныя пляцоўкі, якія наведалі жыхары і госці Маладзечна. Прапаноўвалі разнастайныя імпрэзы – канцэрты, тэатральныя пастаноўкі, выставы народнай творчасці і паэтычныя выступы.

### Тры пераможцы конкурсу песні з Мінскай вобласці

У цэнтры ўвагі быў конкурс выканаўцаў беларускай эстраднай песні. Традыцыйна ў ім прымае ўдзел 21 канкурсант – па тры ад кожнай вобласці і Мінска. Абавязковым патрабаваннем з'яўляецца выкананне дзвюх песень на беларускай мове ад беларускіх аўтараў.

Першы адбор праводзіўся на месцах, а ў Маладзечне адбыліся два апошнія этапы конкурсу. Падчас урачыстага адкрыцця сталі вядомыя пераможцы і лаўрэаты конкурсу.

Уладальніцай Гран-пры стала прадстаўніца Мінскай вобласці Яна Мармыш. Першую прэмію павезла ў Магілёўскую вобласць Дар'я Часлаўская. Другая і трэцяя прэміі адправіліся ў Мінскую вобласць. Іх выйгралі Ульяна Пяшкова і Уладзіслаў Сазонаў.

Працавала паэтычная пляцоўка «Мой родны кут, як ты мне мілы» з удзелам беларускіх паэтаў і музычна-паэтычная гасцёўня «Пад небам Бацькаўшчыны роднай» з выступам беларускіх паэтаў, дзеячоў культуры і мастацтва Беларусі.

Трэці год запар прайшоў праект «Асоба эпохі», у якім героямі становяцца жанчыны з цікавымі гісторыі з іх жыцця. У гэты раз гераіняй праекта стала заслужаная артыстка Беларусі Надзея Мікуліч. Мікуліч – спявачка, кампазітар, удзельніца гуртоў «Верасы» і «Чараўніцы».

### Фестываль – свята мастацтва

На фестывалі прайшла выстава Нацыянальнага гістарычнага музея, прысвечаная 75-годдзю са дня вызвалення Беларусі. У Мінскім абласным краязнаўчым музеі была прэзентаваная выстава мастацкіх вырабаў «Гармонія шкла» мастакоў Таццяны і Пятра Арцёмавых.

У першы дзень фестывалю Мінскі абласны драматычны тэатр выступіў са спектаклем «Не пакідай мяне». Тэатральныя выступленні працягваліся і на наступны дзень, але ўжо з музычным акцэнтам. Беларускі дзяржаўны акадэмічны музычны тэатр прадставіў пастаноўку «Янка Купала: жыццё ў свеце маланак».

Міхаіл Фінберг разам з Нацыянальным акадэмічным аркестрам Беларусі правялі два канцэртныя выступы ў Маладзечне і адзін у Чысці. 7 чэрвеня адбыўся канцэрт «Песні вайны», прысвечаны 75-годдзю вызвалення Беларусі. 8 чэрвеня – канцэрт акадэмічнай музыкі. Увечары таго ж дня Міхаіл Фінберг і аркестр выступілі з джазавай песняй перад чысцінскай публікай.

### Тэматычныя пляцоўкі на любы густ

Фестываль стаў месцам выступу не толькі дарослых музыкаў, але і юных зорак. У рамках гала-канцэрта «Маладзічок запальвае Зоркі» на сцэне Палаца культуры выступілі малады выканаўцы эстраднай песні.

8 чэрвеня на Цэнтральнай плошчы адбыўся абласны фестываль сямейнай творчасці «У добрым родзе – усё ў згодзе». У гэтай лакацыі прайшлі раённы конкурс дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва «Вытокі майстэрства» і арт-фэст «ЛянОК», на якім дэманстравалі прамысловыя і дызайнерскія калекцый адзення і аксесуараў з лёну.

На Цэнтральнай плошчы месціліся тры тэматычныя пляцоўкі. Першай была канцэртная – «Фестывальная талака». «Фестывальная сядзіба» прадставіла экспазіцыю дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, а «Беларускі пачастунак» – выставу-продаж тавараў народнага спажывання. У гарадскім парку размясцілі дзве пляцоўкі для дзяцей і моладзі – «Тэрыторыя дзяцінства» і «АРТ-старт».

Яркім завяршэннем музычна-паэтычнага фестывалю ў Маладзечне стаў гала-канцэрт з юбілейнай праграмай «Зорны карагод» дзяржаўнага акадэмічнага ансамблю танца Беларусі.

На закрыцці фестывалю выступілі заслужаныя артысты Беларусі Ірына Дарафеева і Алёна Ланская, лаўрэат прэміі «За духоўнае адраджэнне» Юлія Быкава, а таксама ансамблі «Песняры», «Чысты голас», заслужаны артыст Аляксандр Саладуха і Нацыянальны цэнтр музычнага мастацтва імя Уладзіміра Мулявіна.

**Настасся УТКІНА.**
**Фота аўтара.**

# Дзецям забаранілі выступаць ці яны не ўкладаліся ў свой час?

**Падчас фестывалю адбылася спрэчная сітуацыя з выступам дзяцей на адной з тэматычных пляцовак. У суполцы адной з сацыяльных сетак з'явіўся запіс пад аўтарствам адной з мам, чыё дзіця не выступіла ў заяўленай праграме.**

МАЛАДЗЕЧНА

Інцыдэнт адбыўся на Цэнтральнай плошчы. Дзеці чакалі свайго выступу амаль гадзіну ў футравых касцюмах пад пякучым сонцам.

Па словах жанчыны, спачатку хтосьці з арганізатараў сказаў, што дзеці не паспеюць выйсці на сцэну, таму што заканчваецца час. А ўжо потым тыя ж арганізатары заявілі, што прыехалі абласныя чыноўнікі, якія і забаранілі дзіцячы выступ. Прычына – нефармат. Маўляў, на фестывалі нельга выступаць з нумарамі з замежнай музыкай.

**– Проста крыўдна за дзетак! Як растлумачыць дзецям, што ім забаранілі выступаць?**

Яны ж потым пыталіся: «Мы дрэнна сябе павод зілі?». Дзеці думалі, што з-за гэтага не выступалі ўчора, – кажа **Яўгенія Родак**, маці адной з дзяўчынак.

Карэспандэнт «РГ» звязалася з дырэктарам Цэнтралізаванай клубнай сістэмы Маладзечанскага раёна, **Ганнай Уладыкай**. Менавіта гэтая арганізацыя адказвала за тэматычную пляцоўку, на якой здарылася сітуацыя з дзецьмі з танцавальнай школы.

Па словах Ганны Уладыкі, усім дзецям танцавальнай школы «Пластылін» далі магчымасць выступіць на пляцоўцы, але выступоўцы не ўкладаліся ў час. Арганізатары далі выступіць дзецям нават звыш часу.

Ганна Уладыка ўдакладніла, што дырэктар «Пластыліну» **Кацярына Кокала** не папярэдзіла арганізатараў, што выступ можа заняць больш часу, чым пра гэта было заяўлена раней. Таксама Уладыка сказала, што праграма выступу была папярэдне абмеркаваная з Кокала, таму пытанне са зрывам выступленняў дзяцей, на яе думку, трэба накіроўваць дырэктару танцавальнай школы.

Такім чынам, Палац культуры і Цэнтралізаваная клубная сістэма Маладзечанскага раёну не мае дачынення да інцыдэнту, запэўнівае Ганна Уладыка.

Кацярына Кокала адмовілася каментаваць сітуацыю.


Фота Аляксандра МАНЦЭВІЧА.

Сучасны выгляд сінагогі ў Ашмянах.



Фота Kukyy.org.

Сінагога з'яўляецца гісторыка-культурнай каштоўнасцю.

# Будынак сінагогі ў Ашмянах збіраюцца ператварыць у мультыкультурны цэнтр

**На тэрыторыі нашай краіны пустуюць будынкі каля 40 сінагог. Гэтую лічбу пацвярджае Беларускі камітэт Міжнародная рада па пытаннях помнікаў і славугістарычных мясцін (ІКАМОС).**

### Яўрэйская спадчына Беларусі

Першыя яўрэі з'явіліся на тэрыторыі сучаснай Беларусі ў 14 стагоддзі, у эпоху Вялікага княства Літоўскага. За гэты прамежак часу яўрэйскі народ пакінуў адбітак на культуры і гісторыі беларусаў.

Падчас Другой сусветнай вайны пацярпеў не толькі яўрэйскі народ, але і будынкі, якія былі адметнай часткай іх культуры. Унікальная спадчына яўрэяў на тэрыторыі Беларусі ўсё ж засталася – гэта сінагогі, ешыботы, могілкі цадзікаў.

Большасць архітэктурных помнікаў яўрэйскай культуры закінутыя, але мясцовыя краязнаўчыя музеі пры спрыянні міжнародных арганізацый спрабуюць захаваць іх гісторыю. Яскравым прыкладам на Павіллі з'яўляюцца Ашмяны.

### Балкон для жанчын і зорнае неба

Будоўля сінагогі ў Ашмянах пачалася ў другой палове XIX стагоддзя. А пачала працаваць прыкладна ў 1912 годзе. Яе пабудавалі з чырвонай цэглы. У сінагогі адметная архітэктура: высокі трох'ярусны дах, фасад, упрыгожаны аўтэнтычным акном-ружай і пілястрамі.

У сінагозе захаваліся элементы інтэр'еру, часткова насценныя размалёўкі, купал, распісаны пад зорнае неба, і роспіс з элементамі знакаў Задыяка. Таксама захаваўся балкон-бабінец – спецыяльны балкон для жанчын.

Да нашага часу не дажылі такія важныя элементы сінагогі, як біма і арон а-кадэш. Біма – ўзвышэнне, звычайна ў цэнтры сінагогі, дзе знаходзіцца спецыяльны стол для публічнага чытання скрутка Торы і адпаведнага ўрыўку з кніг пракрокаў падчас набажэнства. Арон а-кадэш – спецыяльнае сховішча для скруткаў Торы. Яны не захаваліся пасля Другой сусветнай вайны.

Цяпер сінагогу выкарыстоўваюць як аб'ект паказу. Сінагогу можна паглядзець і замовіць экскурсію ад супрацоўнікаў мясцовага краязнаўчага музея. Экскурсія ўключае наведванне Касцёла Святога Міхаіла Арханёла і Свята-Васкрасенскую царквы, якія знаходзяцца побач з сінагогай. Гэта ўсё – культавыя збудаванні гораду.

Ашмянская сінагога знаходзіцца пад аховай дзяржавы, але да мінулага года не рабілася ніякіх крокаў да аднаўлення гэтага аб'екта яўрэйскай спадчыны Ашмянаў.

### Новае жыццё сінагогі

У 2018 годзе Беларускі камітэт Міжнароднай рады па пытаннях помнікаў і гістарычных месцаў (ІКАМОС) і Ашмянскі краязнаўчы музей здзейснілі крок на шляху да змены становішча сінагогі. Яны сумесна рэалізавалі канцэпцыю «Распрацоўкі праекта аднаўлення былой Ашмянскай сінагогі», арыентаванага на патрэбы мясцовай супольнасці.

Сёлета развіццё гэтага праекта працягваецца. Ашмянская сінагога была аб'ектам вывучэння, а цяпер стала прыкладам, як даследаваць праблему, кансалідаваць супольнасці і захоўваць яўрэйскую спадчыну.

Еўрапейскі гуманітарны універсітэт і ІКАМОС арганізавалі канферэнцыю «Сінагогі ў Беларусі: руіны і людзі». Удзельнікамі былі даследчыкі яўрэйскай архітэктурнай спадчыны з Беларусі і Літвы. Семінар уключаў трохдзённую адукацыйную паездку па Літве з мэтай вывучэння мясцовага досведу рэстаўрацыі былых сінагог і працы з яўрэйскай спадчынай. У семінары прыняла ўдзел дырэктар Ашмянскага краязнаўчага музея **Анастасія Навіцкая**.

ІКАМОС сумесна з ЕГУ распрацавалі сумесную канцэпцыю па разумным выкарыстанні будынка былой Ашмянскай сінагогі. Гэта азначае, што аднаўленне сінагогаў павінна мець значэнне і быць карысным для мясцовага грамадства.

Досвед літоўскага боку па аднаўленні і захаванні гісторыка-культурных каштоўнасцяў важна пераймаць і Беларусі. Літва можа паслужыць прыкладам, як правільна выкарыстоўваць адноўленыя аб'екты.

Ужо ёсць і архітэктурны праект аднаўлення сінагогі. Вядуцца далейшыя працы па распрацоўцы дакументацыі.

> **– Міністэрства культуры зацвердзіла першачарговыя супрацьаварыйныя работы на будынку сінагогі.**

Цяпер можна рухацца далей, першы крок ужо зроблены. Галоўная праблема – фінансаванне, – кажа Анастасія Навіцкая.

### Сінагога мае культурнае значэнне для Ашмянаў

Палова насельніцтва ў Ашмянах да Другой сусветнай вайны – яўрэі. Там іх жыло каля 4 тысяч. Пасля вайны колькасць яўрэяў значна скарацілася. Цяпер у Ашмянах жыве некалькі яўрэйскіх сем'яў.

> **– У Ашмянах няма яўрэйскай абшчыны. У гэтым таксама ёсць праблема.**

Яўрэйскае насельніцтва не зацікаўлена ў аднаўленні менавіта сінагогі. Таму вырашылі, што сінагога павінна функцыянаваць як мультыкультурны цэнтр. Такім чынам ён можа выконваць функцыі лекцыйнай і выставачнай залы, канцэртнай залы класічнай музыкі. Гэта памяшканне-трансформер, – распавядае пра магчымае выкарыстанне будынка дырэктар ашмянскага музея.

Анастасія Навіцкая адзначае, што ў той жа час павінны захавацца асноўныя элементы сінагогі, неабходна законсерваваць роспіс.

Паводле слоў Навіцкай, у Ашмянах ёсць актыўныя пласты грамадства, якія зацікаўленыя ў аднаўленні сінагогі:

> **– Мы сабралі мясцовых жыхароў, і яны апынуліся вельмі зацікаўленымі. Не было праблемы адчужэння, што «гэта не наша» і «мы не павінны клапаціцца».**

**Настасся УТКІНА.**

## Дзевяць фактаў пра сінагогу ў Ашмянах

**1.** Да Другой сусветнай вайны ў Ашмянах было 3 сінагогі і 4 малельных дома.

**2.** Будынак Ашмянскай сінагогі, які захаваўся, аддалены ад гістарычнага цэнтра горада, ад праваслаўнага і каталіцкага храмаў.

**3.** Будаўніцтва сінагогі доўжылася каля 50 гадоў. Функцыянаваць будынак пачатак у 1912 годзе.

**4.** Архітэктурная форма Ашмянскай сінагогі – куб.

**5.** Асноўныя элементы інтэр'ера ў савецкі час былі страчаны. Аднак захаваліся выявы знакаў задыяку ў 12 нішах з назвамі месяцаў на іўрыце.

**6.** У сінагогах абавязкова павінны быць вокны і круглае акно над Арон а-кодэш – месцам захоўвання скруткаў Торы. Круглае акно захавалася. Па некаторых дадзеных, вокнаў павінна было быць не менш за 12. Людзі павінны бачыць неба ў час малітвы. Жыхары Ашмянаў сёння не могуць апісаць інтэр'ер сінагогі, паколькі яны туды проста не заходзілі.

**7.** Сінагога была цэнтрам Ашмянскага гета, у якім, па розных звестках, знаходзіліся і былі знішчаны каля 4 тыс. чалавек.

**8.** Пасля вайны ў будынку сінагогі былі склад прадуктаў, хлебакамбінат і вінна-гарэлачная крама.

**9.** У Ашмянскай сінагозе ёсць памяшканне, прызначэнне якога пакуль не ўстаноўлена.

## Астравецкія бегуны адзначыліся ў Смаргоні

Пяць медалёў рознай пробы заваявалі бегуны з Астраўца падчас масавага забегу ў Смаргоні.

У масавым забегу на 10 кіламетраў удзельнічалі сямёра астраўчан. Чэмпіёнам забегу стаў **Цімур Насыраў**, «срэбра» – у **Аляксея Ясінскага** і **Аляксандра Тумашчыка,** а «бронза» скарылася **Аляксандру Петрашкевічу** і **Антону Кавалеўскаму. Павел Дземідовіч** і **Мікалай Шабар** не ўвайшлі ў лік прызёраў, але таксама прадэманстравалі добрую вытрымку і волю да перамогі.

● ФУТБОЛ. ПЕРШАЯ ЛІГА

## «Лакаматыў» разграміў «Смаргонь»

ФК «Смаргонь» пацярпела разгромную паразу ад гомельскага «Лакаматыва» з лікам 6:1. Адзіны гол за смаргонскую каманду забіў **Дзямідчык** у першым тайме з пенальці. Гэта паражэнне стала для смаргонцаў восьмым у сезоне. Калектыў займае апошні радок у турнірнай табліцы Першай лігі. Нагадаем, што ў ФК «Смаргонь» змяніўся трэнер. У канцы траўня галоўкомам смаргонцаў стаў **Павел Раднёнак**.

● ФУТБОЛ. ДРУГАЯ ЛІГА

## Чысцінскі «Андэрдог» прайграў «Маладзечну»

Маладзечанскае дэрбі завяршылася перамогай ФК «Маладзечна» з лікам 2:1. Аўтарамі галоў сталі **Уладзіслаў Кнацько-Штэрк, Сяргей Крот** (абодва – «Маладзечна») і **Сяргей Новік** («Андэрдог»). Чысцінцы апусціліся на пяты радок турнірнай табліцы, а «Маладзечна» ўпэўнена абгрунтаваўся на трэцім месцы.

## «Ашмяны» знішчылі «Нёман»

«Ашмяны» заваявалі на дамашнім полі буйную перамогу. Каманда пад кіраўніцтвам **Антуана Маёрава** паклала ў створ варот саперніка 11 галоў. Футбалісты «Нёман-Агра», у сваю чаргу, не забілі зусім. Дублямі адзначыліся адразу пяць футбалістаў «Ашмянаў»: **Маліноўскі, Скварчэўскі, Пракопчык, Буракоў, Купнецкі.** Аўтарамаднаго гала таксама стаў **Велісевіч**. Цяпер «Ашмяны-БДУФК» знаходзяцца на другім месцы ў Другой лізе.

**Аддзел інфармацыі.**









# У Маладзечне спаборнічалі віртуозы руля

**Восьмага чэрвеня ў Маладзечне прайшоў трэці этап Кубка «Віртуозаў руля». Традыцыйна горад прымае аўтамабілістаў у дзень фестывалю беларускай песні і паэзіі.**

МАЛАДЗЕЧНА

Арганізатарам Кубку «Віртуозаў руля» стала газета «Аўтадайджэст» і яе партал ADT.by.

> **Спартсмены спаборнічалі ў дысцыпліне «джымхана». Гэта праходжанне трасы з перашкодамі за мінімальны час з максімальнай хуткасцю.**

У спаборніцтвах прымалі ўдзел 17 аўтамабілістаў у двух заліках – «Абсалютны» і «Аматар».

– Кожны раз хлопцы змагаюцца на розных траекторыях. І толькі чацвёрка лепшых па суме вынікаў выходзіць ў паўфінал. У парных заездах яны разыгрываюць паміж сабой месцы на п'едэстале, – расказаў **Анатоль Шаўчэнка,** арганізатар аўтатурніру.

Спаборніцтвы складаліся з трох этапаў. У першым этапе стартавалі і аматары, і прафесіяналы. Лепшым у заліку «Абсалютны» стаў **Аляксандр Цэдрык** з «Накаяма Цім». Другі этап вызначаў пераможцаў і прызавыя месцы ў заліку «Аматары», а ў прафесіяналаў вызначаў чацвёрку паўфіналістаў, якіх чакаў парны заезд.

**Уладзімір Коўцік** перамог сярод аматараў. На другім радку – **Віталь Чумакоў**, а трэцяе месца заняў **Арцём Казлоўскі**.

Чацвёрка паўфіналістаў мела вопытны склад: **Аляксандр Цэдрык, Дзмітры Баркан, Яўген Цэдрык, Аляксей Шандзюкоў**. Яны спаборнічалі ў парных заездах на стадыі паўфіналу, але ў фінальную частку змаглі прабіцца толькі два аўтамабілісты. Фінал адрозніваўся ад іншых заездаў не толькі з-за высокага ўзроўню вадзіцеляў, але і надвор'ем.

> **Асноўная частка спаборніцтваў прайшла пад пякучым сонцам, а ў фінале кіроўцы рабілі заезды пад дажджом.**

Аляксандр Цэдрык і Дзмітры Баркан сталі галоўнымі прэтэндэнтамі на перамогу ў трэцім этапе Кубка. На фінішы першым апынуўся Дзмітрый Баркан – гэта другая яго перамога запар.

> **У некалькіх этапах Кубка прымалі ўдзел і супрацоўнікі Дзяржаўтаінспекцыі. Для інспектараў-кіроўцаў, якім часам даводзіцца дзейнічаць у сапраўды экстрэмальных сітуацыях, гэта стала добрым досведам.**

Маладзечна – не фінішная прамая Кубка. Фінальную частку турніру плануюць правесці ў Салігорску або Мінску ўжо 16 чэрвеня.

**Настасся УТКІНА.**



# Крыжаванка ад «Рэгіянальнай газеты»



**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**

1. Бывае пасля дажджу.
2. Малады чалавек, юнак.
5. Пасля нелегальнага настаўніцкага з'езда 1906 года Янка Маўр, як і іншыя ўдзельнікі, трапіў пад перaслед. Аднак у 1911 яго прынялі выкладаць гісторыю і ...
6. Бакавы адростак на ствале дрэва; сук з веццем.
7. Прадмет сялянскай мэблі – шырокая дошка на ножках для сядзення, звычайна прыстаўленая да сцяны.
10. Адзінка вымярэння асветленасці.
11. Слуга, выязны лакей часоў прыгоннага права.
12. Пра не сонечнае надвор'е.
13. Пазваночнік чалавека, жывёлы або рыбы.
14. Шахматная фігура ў форме вежы, якая ходзіць удоўж і поперак дошкі па прамой; тура.
18. Частка конскай збруі з сагнутага тонкага ствала дрэва, якая служыць для прымацавання аглобляў да хамута.
20. Сакрэтнае ўмоўнае слова або фраза для апазнавання сваіх людзей на вайсковай службе або ў канспіратыўных арганізацыях.
21. Расліна, якую санітарныя дактары раяць садзіць на ўчастку для адпуджвання кляшчоў.
22. Гэтая атмасферная з'ява адзначыла 6 чэрвеня 2013 года ў Вілейцы.
24. Алаіза Пашкевіч (Цётка) ніколі не хацела быць хатняй гаспадыняй. Так і выйшла, яна стала грамадскім дзеячам. Але была адна страва, якую яна любіла гатаваць.
25. Прадукт харчавання, які выпякаецца з мукі.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**

3. Які знаходзіцца далёка ад паверхні.
4. Пераказ сваімі словамі літаратурнага твора, а таксама скарочаны выклад вялікіх мастацкіх твораў.
8. Доўгая пурпуровая мантыя – сімвал улады манарха; парадная цырыманіяльнае ўбранне манарха.
9. Малюнак, выразаны на гладкай паверхні цвёрдага матэрыялу (дрэва, метаду, шкла), а таксама адбітак такога малюнка на паперы.
11. Буйны населены пункт, адміністрацыйны, прамысловы, гандлёвы і культурны цэнтр.
12. Шматгадовая травяністая расліна сямейства крыжакветных з тоўстым мясістым коранем, які выкарыстоўваецца як прыправа.
15. Адна з прыладаў, якую неабходна браць з сабой ў лес.
16. Калі яе ўвялі ў Беларусі ў канцы 19 стагоддзя, многія баяліся, што ноunion ваўвядзенне адмоўна адаб'ецца на ўдоях малака.
17. Правільнасць думкі, меркавання, учынкаў; справядлівасць.
19. Як называўся арт-фэст у межах Нацыянальнага фестывалю беларускай песні і паэзіі, падчас якога адбыўся паказ экалагічнага адзення.
20. Аўтарытэт, перавага.
23. Назавіце самае вялікае сузор'е, плошча якога займае каля 3% зорнага неба. Пталемей называў яго Вадзяным Змеем.
26. Самка ласа.

## Адказы на крыжаванку з №322

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 1. Маніла. 3. Грыб. 4. Чырвоны. 5. Разведка. 6. Лепка. 8. Чалавек. 9. Лабірынт. 12. Розум. 14. Дадатны. 17. Горн. 18. Афарызм. 20. Радзіма. 23. Тэстамент. 24. Беласток. 25. Чулы. 26. Рукапіс.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ.** 2. Разгар. 4. Чахол. 7. Лата. 10. Дакумент. 11. Манах. 13. Давер. 15. Легіянер. 16. Верасень. 19. Чарапаха. 21. Лавіна. 22. Дыспетчар.

## ● ГАРАСКОП 14-20 ЧЭРВЕНЯ



**АВЕН.** Вам варта сур'ёзна задумацца над фінансавымі пытаннямі, якія апошнім часам выходзяць з-пад кантролю. Але лёс добразычлівы, і ў вас з'явяцца магчымасці самастойна змяніць сваё жыццё да лепшага, але толькі ў тым выпадку, калі будзеце прыслухоўвацца да свайго сэрца і дзейнічаць, згодна з інтуіцыяй.



**ЦЯЛЕЦ.** Вас чакаюць перамены ў асабістым жыцці і на працы – іх не варта баяцца, насупраць, неабходна прыкласці намаганні для таго, каб атрымаць як мага больш ад гэтых пераменаў.



**БЛІЗНЯТЫ.** Ваша любоў да зносін у гэты раз пойдзе вам на карысць і дасць магчымасць устанавіць патрэбныя кантакты, пагутарыць і пасябраваць з цікавымі і карыснымі людзьмі. Калі вы самотныя, то сярэдзіна тыдня спрыяе вырашэнню гэтай праблемы. У гэты час адносіны з блізкімі пойдуць угору, могуць выйсці на новы ўзровень і значна ўмацавацца. Цяпер добры час, каб заключаць любога роду дамовы, звязаныя з фінансавымі пытаннямі і нерухомасцю.



**РАК.** Спрыяльныя дні. Нейкіх асаблівых здзяйсненняў чакаць не даводзіцца, але і мірны працяг жыцця ў прыемнай абстаноўцы таксама вельмі добрая падзея, хоць і не такая прыкметная. У фінансавай сферы вас чакаюць грашовыя паступленні.



**ЛЕЎ.** Вы будзеце карыстацца папулярнасцю сярод сяброў, бо вашы парады акажуцца асабліва каштоўнымі і іх захоча атрымаць літаральна кожны. Але не ўдавайцеся ў крайнасці і не спрабуйце перарабіць усе справы або дапамагчы ўсім – прысвяціце час і сабе.



**ДЗЕВА.** Вы будзеце нервавацца і наробіце нямала памылак. Імгненная рэакцыя на ўсё цяпер становіцца праблемай: рэагуеце вы хутка, але няправільна, а потым трэба ж выпраўляць памылкі.



**ШАЛІ.** Прысвяціце дні аналізу самога сябе або наяўных адносін. Менавіта цяпер можна вырашыць даўнія рознагалоссі і дасягнуць гармоніі. Калі вы адзінокія, то высокая верагоднасць пазнаёміцца з прыемным вам чалавекам.



**СКАРПІЁН.** Памятайце: лёгка страціць галаву, а як цяжка яе будзе знайсці. Не рабіце неабдуманых учынкаў, старайцеся прадугледзець магчымыя наступствы кожнага кроку.



**СТРАЛЕЦ.** Калі вы ідзяце ў адпачынак цяпер, то атрымаеце нямала задавальнення ад з карысцю праведзенага часу. Вы шмат дзе пабываеце і шмат чаго даведаецеся новага.



**КАЗЯРОГ.** Вас чакае творчы пад'ём. Магчыма, захочаце памяняць свой імідж, зрабіць новую прычоску ці змяніць стыль адзення. Дарэчы, змены пойдуць вам на карысць.



**ВАДАЛЕЙ.** Жывіце сваім жыццём, бо толькі тады чалавек можа быць шчаслівым.



**РЫБЫ.** Вы можаце здзейсніць прарыў, выйсці на новы ўзровень развіцця. Можаце стварыць свой бізнес. Не бойцеся нічога! Ключ – энергія, якая вас перапаўняе.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

## ● СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 3 | 7 | | | 9 | | | | |
| | 8 | 6 | | | 1 | 9 | | |
| | 2 | | | 6 | | | | 4 |
| | 3 | | | | | 2 | 4 | |
| 6 | | | 1 | | 7 | | 8 | |
| 9 | 5 | | 4 | | | 1 | | |
| | | 3 | 5 | | 8 | | | |
| | | | | 7 | 2 | 3 | | |
| | 6 | 5 | | | | | | 1 |

**Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.**

# Рэгіянальная газета. Rh.by

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2017

...ШАЯ ...ЬНАЯ ...ГОДА ...15


# Выпускны-2019



Выпускныя балі прайшлі ў Беларусі 8 і 9 чэрвеня.
Фота з выпускнога ў Маладзечне Яўгеніі Прыгодзіч. Старонка фатографа: vk.com/id178104532.

## Чытайце праз тыдзень

- У Вілейскай ЦРБ адчыняецца кабінет камп'ютарнай тамаграфіі. Гэта дазволіць выяўляць анкалогію на ранніх стадыях. Мяркуюць, што палепшыцца якасць медыцынскай дапамогі жыхарам Вілейшчыны і Мядзельшчыны.

## 15 чэрвеня, субота

**Вецер:** паўночны, 4-5 м/с




### ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я. НАРАЧ

Мінімальная тэмпература +4,1°C у 1978 годзе
Максімальная тэмпература +26,3°C у 2007 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 30,2 мм у 1982 годзе

Паводле meteoinfo.by.



Фота з архіва «РГ».

## Батутыст з Вілейкі стаў лепшым навучэнцам на Міншчыне

ВІЛЕЙКА

Неаднаразовы герой нашых публікацый, спартсмен-батутыст Іван Літвіновіч стаў пераможцам абласнога конкурсу «Лепшы навучэнец установы прафесійнай адукацыі Мінскай вобласці».

Вынікі конурсу падвялі 11 чэрвеня ў Слуцку, паведамілі ва Упраўленні адукацыі Мінаблвыканкама.

Было восем намінацый. Іван стаў пераможцам у намінацыі «За дасягненні ў галіне фізічнай культуры і спорту».

Нагадаем, што Іван перамог у конкурсе як навучэнец дзяржаўнага Вілейскага каледжа.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў РЭГІЁНЕ

## Якія калыханкі спявалі вам бацькі і якія спяваеце вы?



**Наталля Капуцкая, ветэрынарны фельчар, Чысць:**

– Мне мама казкі чытала, а вось калыханкі не памятаю. А яшчэ была абавязкова калыханка па БТ. Пра курку Рабу, пра варону і лісу, якая страціла кавалачак сыру. А я свайму дзіцяці чытаю з кніжак або часам сама прыдумляю.



**Крысціна Зянкевіч, індывідуальны прадпрымальнік, Смаргонь:**

– Якія калыханкі спявалі мне, не памятаю. Сыну асабліва не спяваю. Баюся спалохаць, бо спявак з мяне той яшчэ. Але часам, бывае, слухае «люлі, люлечкі, люлі». Пра воўка, які ўсё спрабуе адкусіць бачок. Цяпер задумалася, што не ведаю ніякіх калыханак. Сумна гэта…



**Юлія Круцкіх настаўніца, Вілейка:**

– Спяваю старую добрую калыханку – дачцэ вельмі падабаецца. Распавядаю і казкі. Дачцэ падабаюцца Маша і Мядзведзь, «не сядай на пянёк, не ясі піражок». Яшчэ Папялушка, Калабок, Чырвоны Капялюшык, Рапунцэль.



**Аляксей Збутовіч, машыніст, Маладзечна:**

– Калыханкі мы ўжо праспявалі! Дзіця падгадавалася. Спявалі мы розныя, але мне ў дзяцінстве падабалася калыханка пра шэрага ваўка, дачушцы маёй яна таксама вельмі падабалася.



**Васіль Старавер, цясляр, Астравец:**

– Люлі-люлечкі-люлі, не лажыся на краі, прыйдзе шэры-шэры воўк… А наогул я выхоўваўся ў дзіцячым доме. Мне ніхто не спяваў.



**Сяргей Латушкін, інжынер-тэхнолаг, к.п. Нарач:**

– Дзяцей няма, таму не спяваю. А бацькі спявалі простую калыханку «Баю-бай».



**Дар'я Казак, бухгалтар, Маладзечна:**

– Нам бацькі спявалі заўсёды адну: «Люлі-люлечкі-люлі, ня кладзіся на краі». І мы сваёй дачушцы спяваем такую ж!

**Падрыхтавала Настасся УТКІНА.**


Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 4200 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№24 (1259) 14.06.2019. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня ТАА «РоллПрынт», 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія №02330/484 ад 16.02.2018 г.
Зак. 911. Падпісана ў друк у 9.00 13.06.2019.
**Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.**



Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Рэдакцыя: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, оф. 518.**
Тэл.: **(80176) 53-78-04** (рэклама, факс), **53-78-05** (дырэкцыя, загадчык аддзела інфармацыі), **53-78-06** (журналісты), **(8029) 573-28-47, 676-84-20.**
E-mail: **reklama@rh.by, regionnews@rh.by.** Web: **http://rh.by, рг.бел.**
Разліковы рахунак BY06BELB30121640300040226000 у ААТ «Банк БелВЭБ» аддзяленне ў Маладзечне, BELBBY2X, атрымальнік ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета», УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.